ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 139 (5321)
Аўторак, 4 снежня 2001 года
Кошт у розніцу — 84 руб.

З калегіі Міністэрства адукацыі

# Абітурыентаў 2002 года чакае шмат новага

***29 лістапада на пасяджэнні калегіі Міністэрства адукацыі адбылося ўжо традыцыйнае напрыканцы восені абмеркаванне вынікаў прыёму ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы краіны. Удзельнікам пасяджэння былі таксама прадстаўлены праекты двух асноўных нарматыўных дакументаў па прыёме ў ВНУ і ССНУ: Правілаў прыёму на 2002 год і Палажэння аб прыёмнай камісіі, якія плануецца ўвесці для навучальных устаноў усіх формаў уласнасці.***

Сёлетняя прыёмная кампанія праходзіла ва ўмовах значнага павелічэння колькасці абітурыентаў. У дзяржаўныя ВНУ на ўсе формы навучання паступалі 128300 чалавек, што на 22 тысячы больш, чым у мінулым годзе.

Такое значнае павелічэнне колькасці абітурыентаў звязана найперш з прадастаўленнем ім права паступаць у некалькі ВНУ. 37 працэнтаў абітурыентаў падалі копіі дакумента аб адукацыі. Гэта, вядома ж, пацягнула за сабой рост конкурсу, які на дзённую форму навучання ў сярэднім склаў 3,4 (летась – 2,7).

У 12 ВНУ колькасць заяў ад медалістаў і выпускнікоў-выдатнікаў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў перавысіла кантрольныя лічбы прыёму. На 127 спецыяльнасцей меў месца конкурс сярод медалістаў.

Стабільная цікавасць абітурыентаў да юрыдычных, педагагічных, медыцынскіх, сельскагаспадарчых спецыяльнасцей. На 4,2 працэнта павялічылася колькасць абітурыентаў на інжынерна-тэхнічныя спецыяльнасці.

Эксперымент па прадастаўленні абітурыентам права паступаць адначасова ў некалькі ВНУ быў прызнаны няўдалым. Як адзначыў начальнік Галоўнага ўпраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі Валерый Дабранскі, не ўсё задуманае ўдалося, на хаду даводзілася вырашаць цэлы шэраг праблем: ВНУ аказаліся не гатовымі прыняць вялікую плынь абітурыентаў у перыяд прыёму дакументаў; уступныя экзамены супадалі; абітурыенты не атрымлівалі інфармацыю пра свае рэальныя шансы на залічэнне. Усё гэта стварала канфліктныя сітуацыі, фізічныя і нервовыя перагрузкі абітурыентыў і супрацоўнікаў ВНУ. Ужо ў працэсе прыёму Міністэрству адукацыі прыйшлося ўносіць карэктывы ў Правілы прыёму, што, безумоўна, непажадана.

У праекце Правілаў прыёму на 2002 год прапануецца арганізаваць правядзенне прыёму па арыгіналах дакументаў, але ў дзве плыні. Першая плынь – у вядучыя ВНУ краіны – мусіць пачаць уступную кампанію раней, каб абітурыенты паспелі прайсці ўсе ўступныя выпрабаванні і азнаёміцца з вынікамі конкурсу. Другая плынь пачне пазней, каб тыя, хто не паступіць у першы раз, змаглі паспрабаваць зноў.

Але варта адзначыць, што гэты пункт праекта (па іроніі лёсу ён за нумарам 5) удзельнікі пасяджэння калегіі катэгарычна не падтрымалі. Па-першае, згодна з ім, значна скарачаюцца тэрміны прыёму дакументаў і здачы экзаменаў, што ва ўмовах вялізнай колькасці абітурыентаў (як у першай, так і ў другой плынях) паставіць ВНУ ў вельмі цяжкае становішча, і экзамены могуць проста не адбыцца. А па-другое, рэктары адмовіліся "ўзаконьваць" дзяленне ВНУ на лепшых (тыя, што пачнуць першымі, "забяруць" найбольш падрыхтаваных і здольных абітурыентаў) і горшых, куды прыйдуць абітурыенты пасля няўдалых спроб паступіць у першай плыні.

Пакуль невядома, як будзе скарэктаваны 5-ы пункт праекта Правілаў прыёму. Праект будзе яшчэ абмяркоўвацца на нарадзе рэктараў і на прэзідыуме Савета рэктараў. І калі Міністэрства адукацыі прыме пратэст кіраўнікоў ВНУ, магчыма, мы зноў вернемся да ранейшых тэрмінаў прыёму дакументаў і здачы ўступных экзаменаў. Але сёлетняй блытаніны, здаецца, ужо не паўтарыцца.

Летась было абвешчана паступовае ўвядзенне ў структуру ўступных іспытаў экзамену па замежнай мове. У 2001 годзе ён быў уведзены практычна ўсімі ВНУ ў адпаведнасці з патрабаваннямі адукацыйнага стандарту адпаведнай спецыяльнасці. Але дзеля падтрымкі выпускнікоў сельскіх школ і школ, размешчаных на тэрыторыях, што пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, а таксама ПТВ сельскагаспадарчага профілю ім было дазволена замест уступнага экзамену па замежнай мове здаваць экзамен па беларускай ці рускай мове.

> **У праекце Правілаў прыёму на 2002 год прапануецца арганізаваць правядзенне прыёму па арыгіналах дакументаў, але ў дзве плыні. Першая плынь - у вядучыя ВНУ краіны... Другая плынь - пазней, каб тыя, хто не паступіць у першы раз, змаглі паспрабаваць зноў.**

Гэты эксперымент быў таксама прызнаны няўдалым, бо супярэчыць самой ідэі ўвядзення абавязковага экзамену па замежнай мове. У праект Правілаў прыёму на 2002 год мяркуецца ўвесці абавязковы экзамен па замежнай мове на эканамічныя і юрыдычныя спецыяльнасці, на іншыя – па меркаванні ВНУ.

І сёння можна толькі параіць усім будучым абітурыентам вывучаць замежную мову.

Парадак залічэння медалістаў і выпускнікоў-выдатнікаў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў устанаўліваўся самімі ВНУ ў залежнасці ад конкурсу. Такі парадак будзе захаваны і надалей.

Як адзначыў Валерый Дабранскі, далёка не ўсе медалісты гатовы вытрымаць уступныя іспыты і конкурс. Сёлета 11,5 працэнта з іх атрымалі нездавальняючыя адзнакі, а студэнтамі сталі меней паловы медалістаў – 41,5 працэнта.

У праекце Правілаў прыёму на 2002 год прапануецца захаваць мінулыя льготы ў дачыненні да пераможцаў міжнародных і рэспубліканскіх алімпіяд і, магчыма, далучыць да іх пераможцаў рэспубліканскіх алімпіяд з дыпломамі II і III ступеняў, а таксама лаўрэатаў спецыяльных фондаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў, студэнтаў і таленавітай моладзі.

Сумешчаныя выпускныя-ўступныя экзамены сёлета дазвалялася праводзіць толькі для тых абітурыентаў (што прайшлі даўніверсітэцкую падрыхтоўку), якія пастаянна жывуць у сельскіх населеных пунктах ці на тэрыторыях, што пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, і скончылі агульнаадукацыйныя навучальныя ўстановы, размешчаныя ў гэтых населеных пунктах. З вынікамі сумешчаных экзаменаў яны маглі ўдзельнічаць у агульным конкурсе. У праекце Правілаў прыёму на 2002 год прапануецца не рабіць выключэнняў для асобных катэгорый абітурыентаў. Але трэба адзначыць, што не ўсе ўдзельнікі пасяджэння пагадзіліся з такой прапановай Міністэрства адукацыі.

Дзеля падтрымкі сельскай моладзі сёлета было прынята рашэнне пры прыёме па спецыяльнасці сельскагаспадарчага профілю абітурыентаў, што не мелі мэтавых накіраванняў, залічваць ва ўмовах асобнага конкурсу сярод выпускнікоў гарадскіх і сельскіх школ. Па словах Валерыя Дабранскага, такі вопыт апраўдаў сябе і, магчыма, ён будзе распаўсюджаны на ўсе спецыяльнасці.

Аналіз мэтавага прыёму паказаў, што заказчыкі не забяспечваюць конкурсны адбор на мэтавыя месцы, ёсць выпадкі выдачы аднаго накіравання на адно месца. Сярэдні конкурс па мэтавым наборы склаў 1,6, а па ведамствах і таго меней. Паўтараецца сітуацыя, калі залічваюцца абітурыенты з невысокім балам, а абітурыенты, што здалі экзамены больш паспяхова і паступалі па агульным конкурсе, застаюцца па-за сценамі ВНУ.

Дзяржаўная камісія па кантролі за ходам уступных экзаменаў прапанавала змяніць удзельную вагу мэтавых месцаў на спецыяльнасці сельскагаспадарчага, медыцынскага і педагагічнага профіляў да 50 працэнтаў, на іншыя спецыяльнасці – да 20 працэнтаў, на юрыдычныя спецыяльнасці – увогуле выключыць.

Але кіраўнікі рэгіянальных ВНУ выступілі супраць такога кватавання мэтавых месцаў, заўважыўшы, што менавіта "мэтавікі" могуць вырашыць кадравую праблему на сяле.

Вынікі ўступных экзаменаў паказалі, што многія абітурыенты маюць недастатковую падрыхтоўку па агульнаадукацыйных прадметах і не вытрымалі экзаменацыйных заданняў, асабліва па хіміі (пісьмова) – 25,9 працэнта і па матэматыцы (пісьмова) – 24,4 працэнта.

Усё большую папулярнасць набірае цэнтралізаванае тэсціраванне. Сёлета колькасць яго ўдзельнікаў у параўнанні з 2000 годам павялічылася ўтрая. Больш за 15 тысяч чалавек выканалі амаль 32 тысячы тэстаў па чатырох прадметах.

> **Плануецца ў якасці эксперыменту правесці цэнтралізаванае тэсціраванне за курс базавай школы ў двух раёнах краіны з поўным удзелам усіх выпускнікоў. Гэта дасць больш аб'ектыўную інфармацыю аб узроўні ведаў вучняў.**

У гэтым годзе быў пашыраны пералік спецыяльнасцяў (у дадатак да тэхнічнага профілю – сельскагаспадарчы і ваенны), пры паступленні на якія залічваліся вынікі цэнтралізаванага тэсціравання. Акрамя таго, 12 ВНУ самі павялічылі пералік такіх спецыяльнасцей. Упершыню было арганізавана цэнтралізаванае тэсціраванне па беларускай мове.

Магчымасць заліку вынікаў цэнтралізаванага тэсціравання ў якасці выпускнога экзамену за курс сярэдняй школы, несумненна, прыцягнула да яго дадатковых удзельнікаў. Па ацэнках Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў, больш за трэць усіх, хто прайшоў тэсціраванне, не здавала па адпаведных прадметах школьныя экзамены.

У 23 дзяржаўныя ВНУ было прадстаўлена больш за 26 тысяч сертыфікатаў цэнтралізаванага тэсціравання. Па выніках конкурсу залічана больш за 6 тысяч чалавек, што складае амаль 40 працэнтаў ад агульнага ліку ўдзельнікаў цэнтралізаванага тэсціравання.

Тым не менш удзельнікі пасяджэння калегіі адзначылі шэраг недахопаў у правядзенні цэнтралізаванага тэсціравання. Па словах многіх кіраўнікоў ВНУ, тэсты па беларускай мове аказаліся "надта ліберальнымі". Патрабуюць удасканалення крытэрыі ацэнкі ведаў, вялікая раскіданасць нормы на адзнаку ("5" – ад 71 да 100) выклікае недавер да добрых і выдатных адзнак. Аналіз вынікаў тэсціравання па матэматыцы паказвае, што каля 30 працэнтаў удзельнікаў атрымалі высокія адзнакі.

– А вы паспрабуйце атрымаць хоць у якой ВНУ "пяцёрку" па матэматыцы, і тым больш за 70 працэнтаў правільна выкананай работы! – заўважыў рэктар Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта Іван Жарскі. – Заданні, што прапануюць на ўступных экзаменах ВНУ, значна больш складаныя, чым заданні цэнтралізаванага тэсціравання. І сёлета ўладальнікі сертыфікатаў мелі фору прыкладна ў 1,5 бала перад іншымі абітурыентамі. Цэнтралізаванае тэсціраванне ў тым выглядзе, у якім яно цяпер праводзіцца, ставіць усіх абітурыентаў у няроўныя ўмовы. А гэта цалкам супярэчыць ідэі стварэння роўных для ўсіх умоў.

> **Дзяржаўная камісія па кантролі за ходам уступных экзаменаў адзначыла, што ў краіне адсутнічае адзіная нарматыўная база для правядзення ўступных іспытаў для дзяржаўных і прыватных навучальных устаноў і што неабходна забяспечыць агульныя прынцыпы, крытэры і патрабаванні да ўступных іспытаў.**

Кіраўнікі ВНУ, абсалютна падтрымліваючы тэсціраванне як ідэю, не падтрымалі прапанову Міністэрства адукацыі аб залічэнні вынікаў цэнтралізаванага тэсціравання пры прыёме на ўсе спецыяльнасці (з правам вызначэння аднаго профільнага экзамену). ВНУ просяць права самім выбіраць: на якія спецыяльнасці залічваць вынікі цэнтралізаванага тэсціравання, а на якія – не.

Але нельга не бачыць і станоўчых бакоў цэнтралізаванага тэсціравання. Найперш – яно захоўвае здароўе нашых дзяцей, для якіх і выпускныя, і ўступныя экзамены могуць незаўважна прамільгнуць яшчэ вясной.

Магчыма, у хуткім часе ў лік прадметаў цэнтралізаванага тэсціравання будуць уключаны англійская мова і хімія.

А яшчэ плануецца ў якасці эксперыменту правесці цэнтралізаванае тэсціраванне за курс базавай школы ў двух раёнах краіны з поўным удзелам усіх выпускнікоў. Гэта дасць больш аб'ектыўную інфармацыю аб узроўні ведаў вучняў, бо ў цэнтралізаваным тэсціраванні на добраахвотнай аснове бярэ ўдзел пераважна тая частка моладзі, што збіраецца прадоўжыць навучанне і мае больш высокія адзнакі ў школе.

Што да сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, то колькасць іх абітурыентаў таксама значна павялічылася ў гэтым годзе. Усяго іх было 106 тысяч, што на 12 тысяч больш, чым летась. Як адзначыў намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Леанід Кірылюк, пяць апошніх гадоў ідзе пастаяннае павелічэнне колькасці абітурыентаў у ССНУ.

У 87 дзяржаўных і 4 прыватных сярэдніх спецыяльных навучальных установах працавала дзяржаўная камісія па кантролі за ходам уступных экзаменаў. Паказальна, што колькі-небудзь сур'ёзных заўваг на адрас ССНУ не паступала.

Вынікі ўступных экзаменаў у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы паказалі, што многія выпускнікі школ недастаткова падрыхтаваны па агульнаадукацыйных прадметах. Найбольшую складанасць абітурыенты адчувалі пры здачы экзамену па матэматыцы. А ўвогуле сярод абітурыентаў ССНУ, што паступалі на дзённую форму навучання, нездавальняючыя адзнакі атрымалі 30,5 працэнта абітурыентаў. "Двойкі" атрымалі 19,2 працэнта медалістаў.

На пасяджэнні калегіі была адзначана неабходнасць удасканалення сістэмы набору студэнтаў на платную форму навучання дзяржаўных ВНУ і ССНУ. Нельга глядзець на студэнтаў як на крыніцу паступлення пазабюджэтных сродкаў, не клапоцячыся пра ўзровень іх падрыхтаванасці. І Міністэрства адукацыі зрабіла прапанову адмяніць прыём па сярэднім бале атэстата.

Шмат заўваг ёсць на адрас прыватных ВНУ. Па словах Валерыя Дабранскага, правілы прыёму не заўсёды ўтрымлівалі звесткі аб акрэдытацыі прыватных ВНУ, аб атрыманні пасля заканчэння курса навучання дакумента спецыяльнага дзяржаўнага ўзору. Па-ранейшаму найбольш папулярнай формай уступных іспытаў у прыватных ВНУ застаецца субяседаванне, практычна адсутнічае розніца між крытэрыямі ацэнкі ведаў на экзамене і на субяседаванні. У шэрагу прыватных ВНУ заніжаны патрабаванні да ўзроўню ведаў абітурыентаў. Некаторыя прыватныя ВНУ перавысілі набор студэнтаў на юрыдычныя спецыяльнасці, іншыя – перавысілі кантрольныя лічбы па гранічнай колькасці студэнтаў, зафіксаваныя ў ліцэнзіях.

Дзяржаўная камісія па кантролі за ходам уступных экзаменаў адзначыла, што ў краіне адсутнічае адзіная нарматыўная база для правядзення ўступных іспытаў для дзяржаўных і прыватных навучальных устаноў і што неабходна забяспечыць агульныя прынцыпы, крытэрыі і патрабаванні да ўступных іспытаў. Цяпер жа ў праектах двух асноўных нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі пастаралася закласці агульныя патрабаванні да навучальных устаноў усіх формаў уласнасці.

Праект Правілаў прыёму ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы відавочна, зведае шэраг змяненняў. Кіраўнікі ВНУ выказалі спадзяванне, што Міністэрства адукацыі прыме да ўвагі ўсе прапановы і заўвагі, і зацверджаны дакумент забяспечыць маладым людзям краіны роўныя магчымасці пры паступленні ў ВНУ і ССНУ і абароніць іх законныя правы на адукацыю.

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

Сеяць разумнае, добрае, вечнае стала прызваннем Ларысы Аляксееўны Міхеевай, якая адпрацавала ў школе 35 гадоў, і яе дачок. Тамара (на здымку злева) скончыла Мінскі інстытут замежных моў, Тацццяна вучыцца ў Магілёўскім бібліятэчным тэхнікуме.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

Весткі

# У БДЭУ - больш за 800 камп'ютэраў

***Сёння інфармацыйныя тэхналогіі становяцца неад'емнай часткай сістэмы кіравання вучэбным працэсам у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. Сучасная камп'ютэрная сетка мае высакахуткасны канал Інтэрнэта і звязвае ўсе факультэты, кафедры і іншыя падраздзяленні універсітэта. Гэта дазваляе ажыццяўляць аператыўную сувязь і кіраванне паміж усімі сістэмамі і службамі вучэбнага працэсу і навуковай дзейнасці ВНУ.***

Парк персанальных камп'ютэраў БДЭУ налічвае больш за 800 сучасных машын, ва універсітэце працуюць 32 камп'ютэрныя класы, а таксама камп'ютэрныя кабінеты пры асобных кафедрах. Універсітэт таксама валодае дастатковай колькасцю спецыялістаў у галіне інфармацыйных тэхналогій, уключаючы выкладчыкаў і супрацоўнікаў кафедр інфармацыйных тэхналогій і інфармацыйных тэхналогій у кіраванні.

Матэрыяльная база і кадравае забеспячэнне дазваляюць універсітэту распрацоўваць і ўкараняць інфармацыйную сістэму кіравання ВНУ. На нядаўнім пасяджэнні Савета універсітэта былі прадстаўлены канцэпцыя развіцця інфармацыйных тэхналогій у БДЭУ і тыя перспектывы яго дзейнасці, якія адкрывае названы праект.

Новая канцэпцыя дазволіць больш эфектыўна выкарыстоўваць высокапрадукцыйную вылічальную тэхніку на базе сучасных сеткавых камп'ютэрных тэхналогій. Выкладчыкі і супрацоўнікі больш глыбока авалодаюць сучаснымі інфармацыйнымі тэхналогіямі і шырэй стануць прымяняць іх у вучэбным працэсе. Плануецца таксама стварыць зладжаную сістэму падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі ў галіне інфармацыйных тэхналогій для ўнутрыуніверсітэцкіх патрэб. Цэнтр развіцця інфармацыйных тэхналогій стане паўней выкарыстоўваць свае магчымасці для забеспячэння вучэбнага працэсу і сістэмы кіравання праграмнымі прадуктамі, абсталяваннем і адпаведнымі інструктыўнымі дакументамі для карыстальнікаў.

**Антаніна ПЯТРОВА.**

Паведамляе прэс-цэнтр Міністэрства адукацыі

# Што, дзе, калі

**5-6 снежня** ў малой зале Цэнтра мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" адбудзецца рэспубліканскі семінар для намеснікаў дырэктараў па выхаваўчай рабоце ПТВ па тэме "Формы і метады выхаваўчай работы ў навучальных установах".

**6 снежня** Рэспубліканскі цэнтр тэхнічнай творчасці навучэнцаў праводзіць пасяджэнне метадычнага аб'яднання "Псіхолага- педагагічныя аспекты выхавання і навучання" па тэме "Трансактны падыход да пабудовы новых форм зносін у сістэме "выхоўваючы дарослы – дзіця".

**6-7 снежня** ў Міжнародным адукацыйным цэнтры адбудзецца міжнародная канферэнцыя "Сацыяльнае сіроцтва: праблемы і шляхі вырашэння".

З **8 па 13 снежня** ў гарадах Віцебску, Гомелі і Мінску будзе праходзіць семінар-нарада дырэктараў цэнтраў турызму і краязнаўства навучэнцаў Расіі і Беларусі.

Семінар адкрыецца **10 снежня** ў Мінску, у Рэспубліканскім цэнтры турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі (вул. Лук'яновіча, 18).

**9 снежня** на базе Рэспубліканскай вучэбна-метадычнай установы "Цэнтр мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" (вул. Фабрыцыуса, 5) праводзіцца рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя для псіхолагаў і сацыяльных педагогаў навучальных устаноў "Экзістэнцыяльная псіхатэрапія і духоўнасць".

**10 снежня** ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі экспануецца выстава малюнкаў і плакатаў навучэнцаў па прафілактыцы курэння, п'янства, наркаманіі і ВІЧ-інфекцыі.

**11-12 снежня** на базе Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі і Акадэміі паслядыпломнай адукацыі праводзіцца рэспубліканская інструктыўна-метадычная нарада дырэктараў цэнтраў творчасці дзяцей і моладзі.

**11-13 снежня** на базе Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі адбудзецца рэспубліканская навукова-метадычная канферэнцыя "Праектаванне сучасных мадэляў павышэння кваліфікацыі навукова-педагагічных кадраў".

З **17 па 21 снежня** ў Гродзенскім дзяржаўным політэхнічным каледжы праводзіцца рэспубліканская алімпіяда прафесійнага майстэрства па спецыяльнасці "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва".

**18-20 снежня** ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі пройдзе міжнародная навукова-метадычная канферэнцыя "Дыстанцыйнае навучанне – адукацыйнае асяроддзе XXI стагоддзя".

**19 снежня** ў Маскве адбудзецца X пасяджэнне Савета па супрацоўніцтву ў галіне адукацыі краін-удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

**19 снежня** ў галерэі "Прырода і творчасць" Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва будзе экспанавацца рэспубліканская выстава дэкаратыўна-прыкладной творчасці.

**20 снежня** Міністэрства адукацыі праводзіць пасяджэнне калегіі па пытаннях:

1. Аб стане і перспектывах праграмна-метадычнага забеспячэння дзейнасці сучаснай дашкольнай установы.

2. Аб галіновай праграме "Кадры 2001–2005гг." Пасяджэнне адбудзецца на базе дашкольнай установы № 164.

**20 снежня** ў выставачнай зале Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі адкрываецца рэспубліканская выстава дзіцячай мастацкай творчасці "Калядная зорка".

**20-21 снежня** Цэнтр мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" праводзіць рэспубліканскі семінар для кіраўнікоў вакальна-інструментальных ансамбляў навучальных устаноў. Тэма: "Асаблівасці работы ВІА і студыі эстраднай песні".

**24 снежня** Цэнтр мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" ладзіць тэатралізаванае прадстаўленне "Каляды на востраве цудаў" для дзяцей-інвалідаў у Адаптацыйна-аздараўленчай установе "Востраў надзеі".

**25 снежня** Нацыянальны цэнтр творчасці дзяцей і моладзі (вул. Кірава, 14) ладзіць тэатралізаванае прадстаўленне "Навагодні кірмаш".

**26 снежня** ў Цэнтры мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" будзе экспанавацца выстава работ удзельнікаў Народнай студыі выяўленчага мастацтва "Святочныя агеньчыкі".

**26 снежня** ў глядзельнай зале Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі будзе паказана тэатралізаванае прадстаўленне "Калядныя вячоркі".

**26 снежня** ў Цэнтры мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" адбудзецца Навагодняе свята для дзяцей-інвалідаў Маскоўскага раёна Мінска.

**27 снежня** мастацкія калектывы Цэнтра мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" выступяць перад медыцынскімі работнікамі Беларускага пратэзна-артапедычнага аднаўленчага цэнтра са святочнай канцэртнай праграмай "Шчаслівых Каляд!".

**26-28 снежня** ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі праводзіцца рэспубліканскі семінар "Новае чытанне класічнай літаратуры".

**27-29 снежня** ў Палацы Рэспублікі пройдзе рэспубліканская дабрачынная акцыя "Нашы дзеці".

**28 снежня** ў Рэспубліканскім цэнтры тэхнічнай творчасці навучэнцаў (вул. Макаёнка, 12) адбудзецца Навагодні ранішнік "Калядная ёлка".

**29 снежня** ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры дзяцей і юнацтва адбудзецца Навагодні карнавал для дашкольнікаў.

# Дзе Іван - там Мар'я, дзе Васіль - там гумар

***Заўважана, што да "Настаўніцкай газеты" літаратары ставяцца як да выключна аўтарытэтнага выдання (дзякуем!), асабліва тыя, хто носіць імя Васіль.***

***Вось і нядаўна няштатны аўтар газеты, пісьменнік-гумарыст Васіль Феранц прапанаваў яе чытацкай аўдыторыі некалькі новых навел-гумарэсак пра вучняў, студэнтаў.***

***Ягоны калега вядомы паэт Васіль Жуковіч таксама наладзіўся на сатырычна-гумарыстычны лад.***

***Ну, а дзе два Васілі - там заўсёды будзе і трэці. Ім аказаўся настаўнік-паэт Васіль Водарасць.***

**Васіль ФЕРАНЦ**

## Сустрэнемся на пераздачы экзамену

Напярэдадні экзаменаў па студэнцкай аўдыторыі папаўзла чутка, што Мікалай Пятровіч, маўляў, бярэ!.. Прычым бярэ хоць і не вельмі танна, затое такса стабільная і цвёрда вызначаная: 50 "зялёных" – пяцёрка, 40 – чацвёрка і гэтак далей.

Студэнты, як вядома, не ўсе роўныя: ёсць высокія і малыя, тоўстыя і хударлявыя, бедныя і забяспечаныя... Стась Лысаконь адносіўся якраз да апошніх, грошы ў бацькі, камерсанта, вадзіліся. Запатрабаваў ён пяцідзесятку – вучыцца, дык на выдатна! – і ўпэўнена, смела пайшоў на экзамен.

Паклаў купюру ў заліковую кніжку і ўвайшоў у аўдыторыю. Дзеля формы, як бы для прыліку, узяў білет са стала. Два пытанні, якія для Стася – тайна егіпецкіх пірамід... Што гаварыць – Бог бацька! А Мікалай Пятровіч прыспешвае:

– Ну, якое першае пытанне? Я слухаю...

Стась мнецца і старанна паказвае вачыма на залікоўку, аж вушы варушацца. Мікалай Пятровіч ніяк не зважае на позіркі студэнта, ну проста нуль увагі на яго адчайны сігнал.

– Не ведаеце, што ж... Другое пытанне?

Тое самае... Маўчанне Стася цягнулася ўжо непрыстойна доўга. Мікалай Пятровіч незадаволена крэкнуў і пацягнуўся за залікоўкай. "Нарэшце!" – з палёгкай уздыхнуў Стась.

Выкладчык адкрыў кніжку, з яе выпала на стол 50-доларавая купюра. Мікалай Пятровіч падабраў яе, здзіўлена агледзеў з абодвух бакоў, быццам упершыню бачыў такую паперку. Потым дастаў з кішэні партмане, паклаў у яго пяцідзесятку і акуратна адлічыў 30 "зялёных" здачы – тры дзесяткі. Паставіў тлустую двойку ў залікоўку, уклаў у яе рэшту і працягнуў Стасю:

– Усё правільна... Сустрэнемся на пераздачы экзамену!

## За свае кроўныя

З сябрам Віталем мы ішлі са школы. А Віталь – зіркасты: як ён углядзеў тую пяцёрку, што ляжала на дарозе? Купюра крыху ўмёрзла ў лёд, і, каб не парваць мокрую паперчыну, сябрук прама з ледзяшом паклаў яе ў кішэню: лёд растане, грошы высахнуць.

Прайшло колькі часу, Віталь палез у кішэню за грашыма, а там – толькі палова паперкі: што за ліха! Ён абмацаў усе кішэні – няма... Ну, рабіць няма чаго, трэба паспрабаваць збыць хоць гэтую палову купюры, тым больш на ёй захаваліся лічбы нумара і серыя. Падыходзім да шапіка, дзе прадаюць розныя прысмакі, прыглядаемся, што б такое купіць?

– А вось карабок "Чупа-чупсаў" якраз пяць тысяч каштуе... Дзядзька, ці не прадалі б нам вось за гэтыя паўкупюры палову карабка "Чупа-чупсаў?"

Прадавец узяў у рукі наш капітал, агледзеў з усіх бакоў, нават на прасвет пацікавіўся – ці ёсць вадзяныя знакі? Назад не аддаў, а выклаў на прылавак дзве цыгарэты.

– Магу толькі гэта прапанаваць, і тое – толькі паважаючы пакупнікоў... Каму патрэбна палова купюры?

А навошта нам цыгарэты? Мы ж не курым... Але рабіць няма чаго, трэба хоць іх браць, калі прапаноўваюць, а то і таго не будзе.

Узялі мы цыгарэты, адышліся. Тут Віталь палез у кішэню курткі і намацаў другую палову купюры! Мокрая, яна, мусіць, прыліпла да тканіны, вось ён, разява, яе спачатку і не заўважыў... Пабеглі мы назад да шапіка:

– Дзядзька, вазьміце свае цыгарэты, аддайце нашу палову купюры!

А той не дурны, не аддае. Бач, чаго захацелі! Узяў ён другую палову купюры і ўзамен даў яшчэ дзве цыгарэты. Каб ты выпруціўся! Што рабіць, не будзеш з ім біцца... Уздыхнулі мы і пайшлі ад шапіка.

Што ж, хочаш ці не хочаш – трэба курыць, калі ёсць цыгарэты. А без агню як жа? Віталь – шапка-вушанка налезла на самыя вочы, – так і ўткнуўся ў жывот першага сустрэчнага:

– Дзядзька, дайце прыкурыць!

І чуе нейкі знаёмы голас:

– Зараз, зараз, мае родныя, прыкурыце...

Паднімае ён вочы – божухна, дырэктар школы! Узяў ён нас за вопратку і павёў у школу, балазе, тут, недалёка. Што там было! Класны кіраўнік наваліўся на нас:

–Узорная школа, на наступны год пераўтвараем яе ў ліцэй... Ганьба, у другім класе вучні ўжо кураць!

Выклікалі бацькоў, тыя таксама далі волю гневу... Не ведаю, як Віталіку, а мне дык добра папала папругай. А за што? За нашы ж кроўныя пяць тысяч!

## Самая лепшая літара

Маша вывучае азбуку. Яна ведае ўжо шмат літар, і калі сустракае знаёмую, радуецца:

– Ага, ведаю цябе! Ідзі сюды...

Адны літары ёй падабаюцца, другія – не вельмі... Асабліва цёпла і ўлюбёна яна адносіцца да літары М.

– Гэта самая лепшая літара, – кажа яна маме. – Таму што яна мая. М-м, Маша!.. Прыгожая літара, праўда, мама?

– Прыгожая. Але не толькі таму, што з яе пачынаецца тваё імя. Шмат яшчэ ёсць цудоўных слоў на літару М.

– Машына, месяц, музыка, – пачала ўспамінаць Маша. – Харошыя словы... Яшчэ мука, з яе пякуць хлеб. Мір – як добра, калі мір... Мора, міліцыя... О, мячык! Цёця Маруся...

– А пра мяне ты не ўспомніла? – усміхнулася маці.

– Ой, як я забылася? Ну, вядома, і ты, гэта і твая літара, мамачка!..

## Лужына

Які ў нас заўтра першы ўрок? Беларуская мова?.. Значыць, можна не вучыць. Усё роўна спознімся. Мы заўсёды спазняемся на першы ўрок.

У школу ў Азяркі нас возіць з нашай вёскі школьны аўтобусік. А на дарозе там у адным месцы ніколі не перасыхае вялікая лужына. Аўтобус на ёй заўсёды буксуе. Дзядзька Кастусь, шафёр, гаворыць:

– А ну, хлопчыкі, вылазьце і штурхайце машыну!

А нам толькі гэта і трэба! Мы штурхаем!.. Толькі не ў той бок. Мы аўтобус назад цягнем. Дзядзька Кастусь нарад газуе, мы назад упіраемся. От, смехатура!.. Так і гойдаецца аўтобус цэлую гадзіну...

Так што першы ўрок мы ніколі не вучым.

Але гэта яшчэ палова справы. Назад, пасля заняткаў, нас ужо не вязуць, пешшу дабіраемся дахаты. Дык, думаеце, малая работа – наносіць вады з ручая ў тую лужыну?

**Васіль ЖУКОВІЧ**

## Цыганскі конь

### *Байка*

Калісьці жыў такі Цімох:
ніяк каня купіць не мог;
хацеў Цімох
не прамахнуцца:
каб конь дастаўся як танней,
ды каб цягнуў жа
як спрытней...
Параілі яму
да цыганоў звярнуцца.
Калі Цімох у цыганоў
каня купляў,
той конь ласкавы быў,
рахманы,
ён прысядаў і спінку
падстаўляў, -
сядай, маўляў,
наезнічак жаданы.
Конь добра быў дрэсіраваны,
яго і падпаілі
чымсьці цыганы -
былі майстры яны
пусціць туман у вочы.
- Глядзі (каб толькі
не сурочыў!),
не конь - агонь,
не конь - карцінка:
якія капыты, якая спінка!
Агрыва чорная - дугой,
і хвост, глядзі, трубой!..
Загіпнатызаваны, наш Цімох
аддаў усё, што толькі мог.
Ён на кані, ужо гарцуе,
канёк пад ім ледзь не танцуе,
ён і не сніў каня такога!
Ляжыць Цімохава дарога,
зусім улёгся ветравей,
над галавой Цімоха - сонца
і птушка рэдкасная -
салавей -
яму спявае недзе ў кронцы,
цвітуць палеткі з краю ў край,
нібыта едзе ён у рай.
Ды не праехаў
наш Цімох і мілі -
цыганскага каня як падмянілі:
ён нечакана рэзка павярнуўся
і задам кінуў,
з месца ірвануўся -
і скінуў конніка, і стрымгалоў
пабег да тых жа цыганоў.
Цімох ляжаў сярод дарогі
(тады не знаблі
хуткай дапамогі),
не чуў ён болей салаўя.

Вось тут хачу заўважыць я:
людзей, падобных на Цімоха,
даволі многа.
Мо байка іх засцеражэ мая:
калі вялікай выгады шукаеш,
глядзі, не страць таго,
што й маеш.

## Анатоль аб'ягорыўся

*Я самога сябе аб'ягорыў.*
*Я свой слых аб'ягорыў*
*і зрок.*
*Я спяшаўся, напэўна,*
*дарэмна,*
*да вяршыні*
*да лесвічнай лез,*
*бо ўсё роўна*
*вышэй мяне дрэвы...*

**Анатоль ЗЭКАЎ.**

Жыў, здаецца,
не знаючы гора, -
і мікіціў, і петрыў штокрок,
аж самога сябе аб'ягорыў,
я свой слых аб'ягорыў і зрок;

колькі мог я імкнуўся ўгору,
да вяршыні ўпарта ўсё лез,
ды заўважыў:
вышэй мяне горы,
ай, што горы -
вышэй нават лес!

Хай бы я занатоўваў
без зморы
думкі свежыя, чорт іх вазьмі,
але ўзяў жа сябе аб'ягорыў,
гэта горш нават
чым падкузьміў.

Бачу я, акунуўшыся ў мора
філасофскае, пенай што б'е, -
не магчымасці рушылі ўгору,
а з гадамі праблемы мае.

Падкупіць застаецца,
пад'юдзіць
мне самога сябе ў гэту золь
і сказаць сабе:
не, больш не будзеш
аб'ягорвацца ты, Анатоль!

**Васіль ВОДАРАСЦЬ**

## На мітынгу мары

*Ці заслоняць сонца хмары,*
*Ці кране настрой*
*панылы, –*
*Ды цвітуць ў сэрцы мары –*
*Наша сонца*
*Нашы крылы...*

**М.ЧАРНЯЎСКІ.**

Ці ўпадзе на вас цагліна,
Ці якая трасца схопіць, -
Усё роўна ёсць прычына
Ад душы памарыць, хлопць!

Нашы мары - наша свята
Нат у самы шэры будзень.
Біце горача, зацята,
Бы ў вядро пустое - ў бубен.

Будзем марыць,
марыць марна,
Хай на вушы стане плошча.
Хай працуюць
ў складзе тарным
Без спачыну цесць і цёшча.

Мы - у трансе, ліхаманцы.
З недаедку твар як шыла.
Хай нас кормяць
мары-танцы -
Наша сонца,
Нашы крылы...

# Незвычайны канспект

***Магу паспрачацца, што кожны з вас сустракаў у газетах і часопісах падборкі цытат са школьных сачыненняў або так званыя вучнёўскія "ляпы". Што ж, гэта даволі весела.***

Але ці задумваліся вы калі-небудзь, што настаўнікі - тыя ж людзі, што і мы з вамі, а таму чалавечае і тым больш вучнёўскае, ім таксама ўласціва? Гэта значыць, часам настаўнікі самі выдаюць такія выслоўі, што хочаш-не хочаш, а засмяешся. І вось мне ў самым пачатку дзесятага класа прыйшла ў галаву цудоўная ідэя: запісваць за настаўнікамі. Ідэя сапраўды была добрай, таму што да канца адзінаццатага класа ў мяне сабралася даволі ўнушальная падборка цытат, якая склала своеасаблівы канспект. Цытаты былі раздрукаваны і пайшлі па руках, тут жа атрымаўшы назву "Незвычайны канспект".

Цяпер я прапаную вам лепшае з майго канспекта. Супадзенні з рэальнасцю - невыпадковыя, але імёны настаўнікаў прадбачліва не называюцца.

***Пачнем з навукі навук - матэматыкі.***

Выклікаючы да дошкі:

- А, гэта быў Ільля, у мяне проста вока спаўзло.

Паказвае, што такое прасторавая фігура, бярэ ў Лёшы лінейку-трохвугольнік і, спрабуючы запіхнуць яе ў дошку:

- Вось глядзіце, тэтраэдр у плоскасць не лезе, не лезе... - лінейка ламаецца, - ну, што я вам гаварыў.

Выклікаючы да дошкі:

- Юра, ідзеш?! Не? Добра, лічу да пяці і перакладваем труп на другія насілкі.

- Хто думае, той рашае, як Сяргей, а хто не думае, той рашае, як я.

***Цяпер разбавім сухую матэматыку жывой рускай літаратурай:***

- Яна сядзіць на вакзале, чакае параход або цягнік.

- Яны наляцяць, гранату кінуць і ўцякуць.

- Гэта не тое, што я патрабавала пачуць.

- Вёска памірае, вось яна ўжо памерла...

- Сачыненне павінна быць напісана па плане, як я скажу!

- Каб я бачыла, як у вас у галаве думкі трапечуцца!

- А потым у сваім сачыненні вы разбіраеце тры найбольш упадабаныя вамі вершы Блока. Гэта "Фабрыка", гэта "Незнаёмка" і гэта паэма "Дванаццаць".

- Расці па гэтай лесвіцы.

- Цяпер пытанні, якія я буду пытацца.

- Гэта такое страшнае злачынства, што нават у Сатаны валасы дуба становяцца.

- Яны закахаліся адзін у аднаго. А потым ён сагітаваў яе... (паўза) мысліць па-рэвалюцыйнаму.

- Старэйшы сын стане першай рукой Пятра.

- Я ўжо чую белага каня, на які я зараз сяду!!!

- Тут і блізка не пахне.

Настаўніца:

- Сачыненне пішам па Ясеніну.

Нехта з класа:

- Вы гаварылі, што па Блоку таксама можна.

Настаўніца:

- Можна. Пішы, як я гавару.

- Гэтыя сінія вочы праз увесь раман праходзяць.

***Яшчэ крыху сур'ёзнага. Фізіка.***

- Назіральнік стаіць і глядзіць усюды.

- Год адставаў на адну сутку.

- Табе лепш сядзець аднаму, каб рукі ў скокі не ішлі.

Паказвае па графіку:

- Калі тут паставіць шпульку ў ланцугу і рабіць хістальныя рухі, то гэтая хістулька... (істэрыка)... гэта значыць шпулька...

***Цяпер дададзім у нашу калекцыю новыя законы хіміі:***

- Бліноў я табе не прынясу, у мяне іх няма.

- Там нехта не задаволены сабой, нехта пішчыць, падвывае.

Крык душы:

- Ну хоць бы калі-небудзь упапад адказалі!!!

- З гэтых двух рэчываў абодва - газы. Вось гэта, праўда, вадкасць.

- Ён трымае пратон дзвюма рукамі, а ён трыма.

- Калі ён на сцяне ляжыць, паспрабуй яго ўбач!

- Я адчуваю, ты мяне зараз будзеш не ў той стэп весці...

- Гэта вельмі складанае ўраўненне рэакцыі. Хто яго ведае, што тут атрымаецца. Нават я не ведаю. Але я ўмею думаць.

- Ну, у цябе рашаецца, ты і рашай. А ў мяне не рашаецца!

- Глядзі, я ж на сцэнку не лезу.

- Я разумею, што вы людзі разумныя, але не трэба нідзе паказваць свой розум!!!

- Вось натрый - метал вельмі актыўны, трапляючы ў ваду, немаведама што там вырабляе, бегае і ўсё такое...

- Чаму ты думаеш, што калі ў чалавека сексуальны настрой, то ён хоча размаўляць?

- Юра, рот не закрывай. Адкрыта дзейнічай.

- Ты якую частку цела зараз выцягваеш?

- Я нідзе не гляджу, што ў мяне ў галаве, тое і гавару.

***А цяпер - некалькі цытат, падараваных мне сябрамі.***

- Піць, курыць і займацца любоўю будзеце дома з бацькамі, калі яны вам гэта дазволяць.

Вучань:

- А па чым будзе кантрольная работа?

Настаўнік:

- Бясплатна.

- Больш прыгожае вока ў мухі, яно ў яе на паўтвара.

- Ракам цяжка бачыць.

Завуч:

- Яшчэ раз такое паўторыцца - пазбавім класнага кіраўніка прэміі.

Вучні:

- Збіраем класнаму кіраўніку на прэмію - і гуляем далей!

- Ваша мэта - мяне фізічна задаволіць, гэта значыць, з пункту гледжання фізікі.

- Я гэтую зону магу зачарніць белым колерам.

Спадзяюся, што вы ацанілі ўсю глыбіню думак нашых любімых настаўнікаў. Бо не адным жа вучням рабіць смешныя памылкі ў сачыненнях! Працэс набыцця ведаў павінен быць узаемным. І, дарэчы, шаноўныя настаўнікі, не моцна крыўдуйце, калі хто-небудзь з вашых вучняў замест рашэння задач занатоўвае вашы разважанні пра жыццё. Раптам яны яму спатрэбяцца!

**Юля ШАБУНЯ.**

# Вясёлы аловак Яўгена Царкова

З Днём нараджэння!

БАР КНІЖНЫ

# "Тата, а дзе Альпы?.."

– Гена, чаму ты не выходзіш у двор да нас пагуляць?

– Не магу, у мяне вельмі строгі бацька. Калі ён робіць мае дамашнія заданні, я павінен знаходзіцца каля яго!

***

У час медыцынскага агляду ў школе ўрач пытаецца ў першакласніка:

– У цябе ёсць якія-небудзь скаргі на вушы і нос?

– Ёсць. Яны мне замінаюць, калі я надзяваю світэр.

***

– Тата, чаму ты замест подпісу ў маім дзённіку ставіш крыжык?

– Каб твой настаўнік не падумаў, што ў такога інтэлігентнага чалавека можа быць такі дурны сын.

***

– Дзядзя, падвязіце мяне да школы.

– Я еду ў другі бок.

– Тым лепш!

***

Увечары з гасцей вяртаюцца муж, жонка і маленькі хлопчык.

– Тата, а тата! А чаму Месяц такі вялікі?

– А? – уздрыгвае сонны бацька. – А хто яго ведае.

– А чаму зоркі такія маленькія?

– Зоркі? А хто іх, сынок, ведае!

– Тата, а тата! А чаму...

– Хопіць, Пеця! Дай тату адпачыць! Бачыш, ён стаміўся! – заступаецца маці.

– Нічога! – адказвае бацька. – Няхай пытаецца, хто ж яму, акрамя бацькі, усё патлумачыць?!

***

Бацька пытаецца ў сына:

– Што сёння было на ўроках?

– На хіміі вывучалі выбуховыя рэчывы.

– А што заўтра будзеце рабіць у школе?

– У якой школе, тата?

***

Хлопчык прынёс з бібліятэкі кнігу "Догляд за дзецьмі і іх выхаванне".

– Божа мой, што ты будзеш рабіць з гэтай кнігай? – усклікнула здзіўленая маці.

– Як што? – адказаў сын. – Я хачу паглядзець, ці правільна вы мяне выхоўваеце.

***

Малы прыходзіць да бацькі і пытаецца:

– Тата, а дзе Альпы?

– Спытай у мамы, гэта яна ўсё з месца на месца перастаўляе.

***

Бацька:

– У тваім узросце Напалеон быў першым у класе!

Сын:

– А ў тваім, тата, ён ужо быў імператарам...

***

– Сучаснае пакаленне нічым не адрозніваецца ад нашага, – сцвярджаў адзін французскі псіхолаг. – Яны таксама вырастаюць. Таксама ідуць у ліцэй. Таксама выкурваюць сваю першую цыгарэту. Таксама ўцякаюць з дому. Таксама жэняцца. Таксама нараджаюць дзяцей. Толькі ў адваротнай паслядоўнасці.

Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намесніказ галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-43-71; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас. Нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.
Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Святлана БЕНЬ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны.
Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Замова № 7063
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 3.12.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.